**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№ 26 (586) 30 чэрвеня 2011 года.

Кошт свабодны.

Браслаўскі раён

## Ад павятовага свята да міжнароднага

■ Станіслаў Раманчук

**Услед за Пастаўскім раёнам эстафету правядзення буйных культурных мерапрыемстваў міжнароднага ўзроўню пераняў суседні Браслаўскі.**

На працягу трох цёплых чэрвеньскіх дзён у азёрным краі правіла баль чарговае свята традыцыйнай культуры “Браслаўскія зарніцы-2011”, якое сабрала гасцей і ўдзельнікаў з 7 краін свету. Хоць афіцыйна яго пачаткам лічыцца далёкі 1967 год, але старажылы памятаюць, што яшчэ раней у цэнтры тагачаснага павета даваенная Польшчы ўпершыню арганізавалі падобнае свята 80 гадоў назад. Тады яно называлася проста: “Першы павятовы фестываль народнай песні”. Не было тады і цяперашніх аграгарадкоў, якія першымі прынялі мастацкія і танцавальныя калектывы, сярод якіх выдзяляўся ансамбль лацінаамерыканскага цэнтра імя С. Балівара.

Вялікую цікавасць, як і ў папярэднія гады, выклікала ў суботу 11 чэрвеня культурная імпрэза сярэднявечнай культуры “Меч Браціслава”, на якой цікавы турнір ладзілі прадстаўнікі 11 рыцарскіх клубаў нашай краіны і Расіі. Шэраг цікавых конкурсаў прайшоў на беразе возера Дрывяты ў райцэнтры, а ў заключны дзень апафеозам урачыстасцей стаў лесапарк “Лесніцоўка”. У рамках свята, апроч культурнай праграмы, знайшлося месца і раённаму інвестыцыйнаму форуму, які раней паспяхова правялі ў сябе пастаўчане, а затым і ў Глыбокім патэнцыйным інвестарам прапанавалі 14 розных праектаў супрацоўніцтва.

Докшыцкі раён

## Кавярня са смакам Італіі

■ Чэслаў Якубовіч

**Раней занядбаны гарадок Докшыцы апошнім часам кардынальна змяніўся ў лепшы бок.**

Яго цэнтр стаў нагадваць сучаснае дагледжанае і цывілізаванае мястэчка еўрапейскага ўзроўню, настолькі тут стала ўтульна і прыгожа. Прыемна, што жыхары райцэнтра не спыняюцца на дасягнутым. На бойкім месцы насупраць абноўленай аўтастанцыі нядаўна адкрылася сапраўдная піцэрыя “Смак+”. Калісьці сюды забягалі перакусіць пасажыры і камандзіровачныя ў звычайную закусачную савецкага тыпу. І вось гэты аб’ект з дапамогай мясцовага райпа набыў новае аблічча і, бадай, зайздросную будучыню. Ужо ў першы дзень працы мясцовы повар выканаў заказы па выпечцы аж 75 розных піцаў. Гэтыя прысмакі работнікі “Смаку+” маюць магчымасць рыхтаваць і для гурманаў– 9 спецыяльных відаў рознай вагі. Для піцэрыі закупілі патрэбнае абсталяванне. Адначасова ў зале могуць абслугоўваць кліентаў за 20 пасадачнымі месцамі. Шэраг столікаў абсталявалі і на летняй пляцоўцы, акрамя гэтага ёсць і барная стойка. Адной піцай вырашылі не абмяжоўвацца, і ў меню ўстановы ёсць першыя стравы, папулярны летам халаднік, розныя салаты, напіткі, марожанае. Можна заказаць і іншыя мясныя блюды, пасмакаваць мясцовую выпечку. А вось навінка са смакам традыцыйнага італьянскага блюда каштуе 10 тысяч рублёў за стандартны аб’ём. Па жаданні ў піцэрыі можна заказаць і маленькую сямейную ўрачыстасць.

Пастаўскі раён

## Вада забрала назаўсёды

■ Кастусь Александровіч

**Мінулагодняе лета, апроч невыноснай гарачыні, запомнілася таксама павелічэннем колькасці няшчасных выпадкаў з гібеллю людзей на вадзе.**

Сёлетні год таксама не стаў выключэннем, толькі адзін чэрвеньскі тыдзень прынёс адразу 5 трагедый з дзецьмі на вадаёмах у розных рэгіёнах краіны. На жаль, такая бяда здарылася каля 17 гадзін дня і ў гарадскім пасёлку Варапаева, што ў Пастаўскім раёне. На мясцовую рачулку каля маста адправіліся дзве дзяўчынкі, узялі з сабой шампунь, каб памыцца ў гарачы дзень. Адна з іх якраз у гэты момант паслізнулася, упала ў вірлівую ваду і неўзабаве ўтапілася, бо не ўмела плаваць. Самае страшнае, што перад гэтым толькі тры дні назад у школьніцы мясцовай дзесяцігодкі быў дзень нараджэння і ёй споўнілася 10 гадоў. Цела дзяўчынкі дасталі з вады, калі ёй ужо немагчыма было дапамагчы. Як ні горка, але менавіта выпадковыя ўтапленні летам сярод дзяцей і падлеткаў найбольш распаўсюджаныя. Ахвяр на вадзе у Беларусі сярод школьнікаў і дашкольнікаў штогод бывае каля ста.

На Пастаўшчыне вырашылі пасля гэтай бяды арганізаваць падчас канікул і ў новым навучальным годзе навучанне дзяцей плаванню і правілам бяспечных паводзін на вадзе. Для гэтых мэтаў будзе задзейнічаны плавальны басейн у райцэнтры, куды мяркуецца падвозіць на вучэбныя заняткі і вучняў з сельскіх школ.




## Лічба нумара

**4450** рублёў за адзін літр з раніцы 9 чэрвеня - такімі сталі новыя рознічныя цэны на дызельнае паліва. Перад гэтым цана саляркі, як і іншых відаў аўтамабільнага паліва, імкліва вырасла ўжо ў пяты раз сёлета ў сярэднім на трэць. Аднак адразу ў беларускай сталіцы сотні аўтамабілістаў на працягу некалькіх гадзін правялі паспяховую акцыю “Стоп-бензін” і фактычна заблакіравалі праспект Незалежнасці на ўчастку ад плошчы Перамогі да Галоўпаштамта і, як выйшла, фактычна дабіліся свайго.

Прыйшлося ва ўрадзе пасля распараджэння кіраўніка краіны праз двое сутак знізіць кошт дызпаліва, усяго на 12,7 % з ранейшых 5. 100 руб/л. Гэта мера, аднак, выклікала незадавальненне беларускіх аграрыяў, бо той жа бензін Аі-92 цяпер каштуе танней, усяго 4. 200 руб/л. Гэта раптоўная і крыху хаатычная сітуацыя з цэнамі на паліва ў выніку так і не вырашыла асноўных праблем нафтаперапрацоўчай прамысловасці і саміх аўтамабілістаў. Беларусы апошнім часам быццам прывыклі да больш-менш прымальнага ўзроўню жыцця і да таго, што на 100 сем’яў цяпер у нас прыходзіцца 36 легкавых аўтамабіляў.

Гэта даволі шмат нават для багатых краін, а што да нас, дык менавіта ў гэтай сферы захоўваецца найперш патэнцыял для незадавальнення людзей жыццём і база для росту сацыяльнага пратэсту. Сапраўды, павышэнне цэн закранула ўсіх грамадзян, а такое рэзкае павышэнне цэн на паліва закранула кожную трэцюю і нават амаль што кожную другую сям’ю. Зразумела, такі адкат цэнаў назад пасля рэзкай дэвальвацыі нацыянальнай валюты – вымушаная саступка і, па сутнасці, – папулісцкае, а не эканамічнае рашэнне. Ды і нам далі зразумець, што і надалей цэны на паліва будуць расці дзесьці на 3-5 % у месяц.

Перад гэтым з 24 мая цэны на паліва пасля абвалу беларускага рубля на 56 % на тое ж дызпаліва выраслі яшчэ амаль на чвэрць. Напярэдадні па ўсёй краіне каля АЗС расцягнуліся на сотні метраў даўжэзныя чэргі жадаючых заправіцца пад завязку. Продажы паліва на запраўках выраслі ў шмат разоў, а ў прыгранічных раёнах яшчэ болей. Вось толькі трэба ведаць, што абодвум нашым НПЗ у Наваполацку і Мазыры мець мінімальны прыбытак ад сваёй дзейнасці і нулявую рэнтабельнасць пры продажах бензіна і салркі на ўнутраным рынку можна толькі пры цэнах 1 долар/літр.

Менавіта нафтаперапрацоўшчыкі настойвалі на павышэнні цэн на паліва пры існуючым напружанні на валютным рынку. Сырую нафту заводам прыходзіцца купляць за валюту і невыпадкова сталі замежным грамадзянам прадаваць паліва яшчэ ў маі толькі за валюту. Услед за гэтым з’явіліся абмежаванні і для беларускіх кіроўцаў пры запраўках на АЗС за рублі ў аб’ёме 25 л і 100 л – для грузавых аўтамабіляў. Цяперашні дыспарытэт ніяк не вырашыў усіх існуючых праблем з-за розніцы цэн на паліва і заробкаў людзей у суседніх з намі цэнах.

Каб супрацьстаяць некантралюемаму вывазу быццам танных беларускіх тавараў і бензіна за граніцу, урад прыняў абмежавальныя меры па рэалізацыі на АЗС дызпаліва не болей як 200 л на фуру. Легкавушку можна запраўляць адзін раз за 5 дзён пры выездзе за мяжу пад завязку поўны бак плюс 10 літраў без аплаты ўведзенай экспартнай пошліны. Але каму выпадае ездзіць часцей у Прыбалтыку, Расію, Украіну, Польшчу, ужо з пустымі бакамі трэба каціць да запраўкі на памежнай тэрыторыі.. Незадавальненне людзей адразу вылілася ў несанкцыянаваную акцыю пратэсту на пункце пропуску “Брузгі” ля польскай граніцы, дзе каля 300 чалавек заблакіравалі праезную частку дарогі.

Прыйшлося задзейнічаць АМАН, 22 пратэстуючыя былі затрыманы, а адзін з іх распыліў слёзацачывы газ. Да таго ж у нас увялі абмежаванні на выезд на машынах за мяжу не часцей за 6 разоў на месяц. Зараз паставіць бар’еры можна толькі на заходнім і ўкраінскім участках дзяржграніцы. Але на неабсяжных расійскіх прасторах у беларусаў ёсць магчымасць з-за Мытнага саюза абмяняць свае тавары на паўнавартасны расійскі рубель і канверсіраваць яго затым на валюту, якая яшчэ не хутка з’явіцца ў абменных пунктах. Пакуль відавочна, што ў нас наступіў сур’ёзны крызіс, і з яго краіна можа выйсці, калі будзе паслядоўна рэалізоўваць антыкрызісную праграму. Але пакуль штосьці слаба верыцца, што неўзабаве цэны на бензін і не толькі зноў не вырастуць. У беларусаў цяпер стала не хапаць грошай не толькі на паліва, але і на тое, каб нармальна харчавацца.

### Надвор’е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер30.06.11 | | | | пятн. 01.07.11 | | | | сб. 02.07.11 | | | | нядз. 03.07.11 | | | | пн.04.07. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +18 | +23 | +27 | +25 | +20 | +24 | +28 | +27 | +21 | +23 | +23 | +20 | +17 | +20 | +23 | +21 | +14 | +21 | +25 |
| Ціск, мм | 747 | 746 | 745 | 744 | 744 | 743 | 742 | 741 | 739 | 739 | 738 | 738 | 737 | 738 | 739 | 740 | 740 | 740 | 740 |
| Вільготнасць, % | 92 | 79 | 55 | 59 | 82 | 71 | 51 | 57 | 77 | 79 | 75 | 89 | 100 | 91 | 61 | 74 | 98 | 78 | 54 |
| Вецер м/сек | В 5 | В 5 | В 6 | В 4 | В 6 | В 6 | В 6 | В 5 | В 7 | В 6 | Ю-В 4 | Ю 2 | Ю-В 4 | Ю 3 | Ю 4 | Ю 3 | Ю-В 2 | В 1 | С 1 |

## Дзень за днём

**У чэрвені спадзяваліся спыніць эканамічны абвал, аднак яшчэ ў 1-й дэкадзе месяца ў 5-ы раз выраслі цэны на паліва, затым яшчэ і на цыгарэты, мяса. Пасля абвалу беларускага рубля многія звычайныя тавары і прадукты становяцца не па кішэні збяднелым беларусам. На гэта рэзка адрэагаваў кіраўнік краіны. Колькасць працаўнікоў, адпраўленых у вымушаныя водпускі, вырасла па краіне на 47 %, заробкі рэзка пайшлі ўніз, асабліва ў бюджэтнікаў. Цэны на рыбу сталі проста непрыстойнымі, і гандаль ёй практычна спыніўся. Хто адкажа за такую трывожную сітуацыю?**

# Важнейшыя навіны свету

**Польшча.** Напярэдадні старшынства ў ЕС глава МЗС Р. Сікорскі абʼявіў, што Еўрасаюз адмаўляецца ад супрацоўніцтва з РБ у рамках праграмы "Усходняе партнёрства".

**Расія.** Пасля другой за тыдзень хвалі выбухаў рэактыўных боепрыпасаў ва Удмуртыі пацярпела больш за 100 чалавек, былі разбураны школа і дзетсад пасёлка Пугачова.

**Германія.** Улады краіны заклікалі немцаў не ўжываць парасткі соі, фасолі, а таксама часнаку, радыскі, рэдзькі, брокалі, іншай гародніны, каб не падхапіць кішэчнай інфекцыі.

**Грэцыя.** З мэтай выхаду з крызісу ўрад краіны абʼявіў аб скарачэнні бюджэтных расходаў яшчэ на 6,4 млрд. EUR, грэкам ЕС выдзеліў дадаткова 60 млрд. еўра падтрымкі.

**Галандыя.** На пасяджэнні Міжнароднага суда ў Гаазе сербскі генерал Ратко Младзіч адмовіўся прызнаць сваю віну, слуханні па яго справе перанеслі на 4 ліпеня.

**Перу.** Новым прэзідэнтам краіны стаў былы ваенны, сацыяліст Альянта Умала, з пераможцай яго павіншавала канкурэнт, дачка асуджанага ранейшага лідара краіны.

**Англія.** Уплывовае выданне Financial Times выступіла ў падтрымку выдзялення МВФ крэдыту для Беларусі, бо інакш яна можа страціць сваю незалежнасць.

**Йемен.** Народныя гулянні выклікаў вымушаны адʼезд за граніцу для лячэння раненага асколкам прэзідэнта Алі Салеха, краіна балансуе на мяжы грамадзянскай вайны.

**ЗША.** Палата прадстаўнікоў кангрэса ЗША прагаласавала супраць павелічэння ліміта дзяржаўнага доўгу, беспрацоўе вырасла да 9,1 % з-за праблем партнёраў у Японіі.

**Украіна.** Толькі 2 % украінскіх абітурыентаў (усяго 6 тысяч юнакоў і дзяўчат) вырашылі здаваць тэсты на ўступных экзаменах у ВНУ і тэхнікумы на рускай мове.

**Кітай.** Адна з буйнейшых у свеце кампанія ZTE Corporation выйграла тэндар на будаўніцтва нацыянальнай сеткі шырокапалоснага доступу ў Інтэрнэт у Беларусі 100Мбіт.

**Венгрыя.** Газеты і радыё, ТВ-каналы краіны з 1 ліпеня будзе кантраляваць Савет па справах СМІ, за экстрэмізм, хлусню, зневажанні ўвялі штрафы ад 90 да 720 тыс. еўра.

**Фінляндыя.** Краіна выйшла на 1-е месца ў ЕС па колькасці турыстаў, 89 % фінаў праводзяць сёлета водпускі ля цёплага мора, пераважна на пляжах Італіі, Іспаніі, Францыі.

**Расія.** Пасля пераломау шыйкі сцягна не стала заслужанага ўрача РФ Юліі Бялянчыкавай, якая больш за 20 гадоў вяла на ЦТ папулярную праграму "Здароўе".

**Англія.** За рэкордную суму 4,5 млн. фунтаў стэрлінгаў прадалі на чарговай сесіі аўкцыёнаў дома "Крысці" карціну рускага мастака Ільі Рэпіна "Парыжская кавярня".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Толькі ў беларускай сталіцы, як заявіў эканаміст Міхаіл Залескі, без працы засталіся 100 тысяч чалавек, на біржу яны не ідуць з-за мізэрных выплат дапамогі.

**Жлобін.** Беларуская чыгунка пачала работы па электрыфікацыі ўчастка да Калінкавічаў, за крэдыты Кітая і свае сродкі намечана пусціць электрычкі і на Гомель-Жлобін-Асіповічы.

**Брэст.** Суд дазволіў АСБ "Беларусбанк" атрымаць за доўг (звыш 2 млн. $) з "Дываноў Брэста" яго будынкі на продаж і больш за 15 тысяч выбраных мясцовых дываноў.

**Мінск.** Да канца 3-га квартала, як паведаміў "Белтрансгаз", Беларусь павінна падпісаць кантракт з "Газпрамам" аб пастаўках газу на 2012-2014 гады па цане 250 $/тыс. куб. м.

**Пінск.** У гэтым рэгіёне Палесся каля двух месяцаў не было ніводнага дажджа, пасевы і пашы моцна выгаралі, чакаецца значны недабор вырошчанага ўраджаю і зялёных кармоў.

**Гомель.** З новага навучальнага года ў адным з ПТВ горада пачнуць упершыню ў РБ рыхтаваць прафесію пчаляроў, па вобласці – па 10 новых спецыяльнасцях, будзе значны конкурс.

**Мінск.** Уведзенае рэгуляванне цэн, як заявіў эксперт Уладзімір Карагін, прывядзе да таварнага дэфіцыту, спынення паставак бытавой хіміі, закрыцця многіх бізнесструктур.

**Чэрвень.** Па дагаворы з нямецкай фірмай у рыбгасе "Волма" пачнуць вырошчваць па адладжанай тэхналогіі новую ўнікальную для краіны рыбу – афрыканскіх самоў.

**Мінск.** Пасля сустрэчы з прэмʼерам экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч заявіў, што ўрад РБ не гатовы да рэформ эканомікі і таму да завяршэння крызісу ў краіне нябліжэй свет.

**Гродна.** Толькі з дапамогай зброі міліцыя змагла затрымаць падлеткалiхача за рулём бацькоўскай машыны, падчас апераціі ён паспрабаваў наехаць на інспектара ДАІ.

**Мінск.** Украінскі пасол у РБ Р. Бязсмертны перад сваёй адстаўкай заявіў, што эканамічны крызіс у РБ справакаваў жорсткі разгон акцыі 19 снежня, што шакіравала Еўропу.

**Нароўля.** У адной з вёсак раёна падчас дзіцячых гульняў смяртэльнае нажавое раненне ў шыю вучню 4-га класа нанёс хлопчык на год маладзейшы, цела знайшлі на другі дзень.

**Мінск.** Падчас акцыі "Стоп-бензін" амаль на 2 гадзіны некалькі соцень аўто паралізавалі рух у цэнтры сталіцы ад плошчы Перамогі да Галоўпаштамта, пра гэта БТ прамаўчала.

**Гродна.** Былы праграміст і мультыплікатар, аўтар мульцікаў пра лідара РБ Алег Мініч пасля вымушанага адʼезду ў ЗША атрымаў працу на адной з кінастудый Галівуда.

**Іванава.** Не спужаўся ноччу 60-гадовы пенсіянер з вёскі Моладава двух маладых злачынцаў у масках, кухонным нажом у хаце забіў аднаго і параніў другога рабаўніка.

## Кошты на цыгарэты істотна павялічаны другі раз за чэрвень



■ Паводле БелаПАН

**Мінэканомікі з 26 чэрвеня ўжо другі раз за месяц павялічыла кошты на цыгарэты. Па розных марках цыгарэт рост коштаў склаў ад 0,7% да 90%. Папярэдняга падаражэння (а з 8 чэрвеня кошт на тытунёвыя вырабы ўзрос у сярэднім на 50%) было недастаткова для таго, каб кампенсаваць вытворцам выкліканы дэвальвацыяй рост коштаў на імпартную сыравіну.**

Паводле пастановы Мінэканомікі №95 ад 24 чэрвеня, цяперашняе падаражэнне не кранула айчынных марак цыгарэт, якія выпускаюцца Гарадзенскай тытунёвай фабрыкай, а вось кошты на імпартныя брэнды, што выпускаюцца як беларускімі вытворцамі, так і імпартуемыя, змяніліся істотна.

Вось некаторыя змены:

1.**Цыгарэты вытворчасці ААТ "Гарадзенская тытунёвая фабрыка "Нёман"**: "Карона" - 2400 рублёў за пачак (+27,7%);Alliance - 2450 рублёў за пачак (+25,6%); Kent - 5000 рублёў за пачак (+13,9%); Lucky Strike - 3900 рублёў за пачак (+0,8%);Pall Mall - 3500 рублёў за пачак (+2,3%); Pall Mall Superslims - 3900 рублёў за пачак (+25,4%);Rider - 3500 рублёў за пачак (+52,2%);Velvet - 3800 рублёў за пачак (+55,1%);Viceroy - 3200 рублёў за пачак (+6,7%);Vogue - 9500 рублёў за пачак (+90%);Kent Nanotek - 6000 рублёў за пачак (+33,3%)

2. **Цыгарэты вытворчасці ТАА "Тытунь-Інвест"**: Camel - 5000 рублёў за пачак (+9,9%);Golden Gate - 2500 рублёў за пачак (+28,2%);Monte Carlo - 3500 рублёў за пачак (+23,2%); West - 3600 рублёў за пачак (+25,4%)4Winston - 3900 рублёў за пачак (+12,4%); Карона - 2400 рублёў за пачак (+27,7%)

3. **Цыгарэты замежнай вытворчасці:** Davidoff - 9500 рублёў за пачак (+25,3%;Dunhill - 10000 рублёў за пачак (+25%); Sobranie - 17000 рублёў за пачак (+0,7%); Vogue - 10000 рублёў за пачак (+23,2%)

Як раней паведамлялася, перад павышэннем коштаў напачатку чэрвеня консенсусу атрымалася дасягнуць толькі на айчынную прадукцыю ГТФ "Нёман", а кошты на цыгарэты замежных брэндаў кампаній BAT, JTI і Imperial Tobacco паднялі на велічыню меншую, чым была дэвальвацыя беларускага рубля.

Цяперашнее вельмі нераўнае павышэнне коштаў (па некаторых марках размова ідзе фактычна пра невялікае акругленне коштаў, па іншых - амаль пра падваенне) удзельнікі рынку тлумачаць тым, што пры папярэднім павышэнні коштаў партфелі брэндаў розных удзельнікаў рынка падаражэлі нераўнамерна. У выніку, як ужо паведамлялася, "Тытунь-Інвест" напачатку месяца прыпыніў вытворчасць цыгарэт, спаслаўшыся на "блытаніну з валютнымі справамі". У выніку ГТФ "Нёман" прыйшлося працаваць за дваіх, але вытворчасць была стратнай.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Верхнядзвінск.** На маласлызаводзе запусцілі сучасны цэх сушкі сыраваткі і давялі глыбіню перапрацоўкі малака да 90 %, выраслі і экспартныя пастаўкі да 63 % прадукцыі.

**Віцебск.** У цэнтральным універмагу не стала ў продажы імпартных пральных сродкаў, пасля падаражання перасталі прадаваца айчынныя ЖК-тэлевізары коштам 3-5 млн. руб.

**Наваполацк.** Для адбывання пакарання (амаль 5 гадоў) у калонію № 10 з самым жорсткім рэжымам этапіравалі экскандыдата ў прэзідэнты, экс-намесніка главы МЗС А. Саннікава.

**Орша.** З пачатку года пастаянна растуць продажы на экспарт у ЕС, Турцыю і ЗША прадукцыі льнокамбіната: не толькі тканін з лёну, але і гатовых вырабаў, ёсць заказы і РФ.

**Віцебск.** Супраць звольненага дырэктара завода тракторных запчастак, дзе працаваў абвінавачваемы ў тэракце ў метро, пракуратура распачала крымінальную справу.

**Талачын.** У вёсцы Галошава калгасны тракторыст здзейсніў на падпітку ДТЗ на трактары МТЗ-82, З гадзіны плаваў у возеры Глыбокае, пакуль не ўцёк ад супрацоўнікаў ДАІ.

**Полацк.** Суд прыгаварыў да 6,5 гадоў турмы судзімага 45-гадовага мужчыну моцнага целасклада, які на працягу 3 гадоў рабаваў на мясцовым рынку дробных гандляроў.

**Глыбокае.** Кансервавы завод стаў ААТ "Купцоўъ", і хоць нарасціў абʼёмы вытворчасці ў 2 разы, экспартныя пастаўкі, асартымент прадукцыі, пакуль не выйшаў на работу без страт.

**Гарадок.** У райцэнтры адкрыўся першы ў раёне двухпавярховы дзіцячы дом сямейнага тыпу для 5 прыёмных дзяцей, у вобласці такіх устаноў стала 15 для больш як 100 малышоў.

**Віцебск.** Упершыню ў абласным цэнтры прайшоў аўтапрабег супраць абортаў, бо толькі летась з-за спынення цяжарнасці на Віцебшчыне былі забітыя 36 тысяч будучых дзетак.

**Паставы.** У райцэнтры прайшоў першы міжнародны эканамічны інвестыцыйны форум, літоўскія бізнесмены зацікавіліся праектам сумеснага выпуску пелет на льнозаводзе.

**Лёзна.** Каля вёскі Пушкі міліцыя затрымала 43-гадовага жыхара суседняга Сенненскага раёна пры спробе вывезці нелегальна за мяжу ў Расію 6,1 тону ломку чорнага металу.

**Віцебск.** У мясакамбіната ўзніклі праблемы з набыццём імпартных матэрыялаў і харчовых дабавак з-за адсутнасці валюты, расіяне толькі тушы мяса на касцях.

**Орша.** У дзіцячым парку правялі чарговае свята марожанага, у спякотны дзень яно разыходзілася на ўра, малых дзетак, пераможцаў конкурсаў, частавалі бясплатна.

**Полацк.** Толькі праз 9 сутак пошукаў знайшлі цела патануўшага 66-гадовага жыхара горада, на возеры Белае вада забрала жыццё і 20-гадовага студэнта.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Генадзь Плавінскі,
*чытач «ВГ».*

# Загадкавасць спадчыны Корсака

**На былых землях Корсака, а сёння ў слаўным горадзе Глыбокае, былым двухуласным мястэчку, захаваліся старажытныя муры сямі помнікаў сівой мінуўшчыны. Праз стагоддзі нагадваюць нам матэрыяльныя напаміны аб слаўным імені – Іосіф Корсак. Гады яго жыцця – 1570 – 1643.**

На старых могілках велічна ўзвышаецца 9-метровая калона з пышнай шапкай – гняздом бацяноў. Тут штогод з ранняй вясны і да ранняй восені чуваецца клёкат, улетку гаспадыня-бусліха цярпліва прыкрывае крыламі і даглядае дзетак, а здабытчык-буся прыносіць ежу. Калі-нікалі ўступае ў дуэль з суседскім бацяном. У жніўні ўсёй сямейкай буслы падымаюцца ўвысь да неба, кружаць, распусціўшы крылы, і як нацыянальны сцяг апускаюцца на роднае гняздо.

Знаўца нашай гісторыі Отан Гедэман у навуковай працы "Głębokie" (Вільна -1935 г.) на аснове вывучэння 127 архіўных дакументаў не даў адназначнага адказу пра час пабудовы калоны і пра што яна сведчыць людзям: "Паходжанне яе загадкавае… Глыбоцкая калона была пабудавана да заснавання могілак. Паводле сцвярджэння доктара Лорэнца, датуецца яна канцом XVIII стагоддзя."




Разгледзім загадкавыя падзеі канца 18 стагоддзя. Набліжаўся 1770 год, калі Іосіфу Корсаку, фундатару трох храмаў, споўніцца 200 год з дня нараджэння. У 1756 – 1763 гадах замест драўлянага паўстае Беразвецкі мураваны комплекс, шэдэўр еўрапейскай архітэктуры. Пасля завяршэння грандыёзнай будоўлі ў Беразвеччы пачынаецца новая.

"…Перад 1764 годам пачаў будаваць мураваны касцёл ксёндз Антоній Яшчолт, які давёў будаўніцтва "да акон" і памёр. Будаўніцтва было закончана ў 1782 годзе яго пераемнікам, ксяндзом Міхаілам Федаровічам. Гэты касцёл у гонар Святой Тройцы меў 2 вежы… На адной з калон касцёла быў партрэт фундатара. На жаль, гэта памятка ў 1905 годзе была прададзена ў прыватныя рукі і вывезена з Глыбокага.

**За тры месяцы да смерці Іосіф Корсак кажа, каб яго "цела нямоглае і плюгавае без усякіх цырымоній было пахавана ў касцёле тым драўляным глыбоцкім, які збудаваў"**

Глыбачане, прыпынімся на глыбоцкай плошчы храмаў. Тут летам струменіцца фантан. Гэта плошча сустрэч многіх пакаленняў нашых продкаў. Паклонімся мурам, да якіх у 1639 годзе дакранаўся Іосіф Корсак.

Выйдзем на вуліцу – дарогу на Полацк. Пройдзем каля былога квітнеючага сада (сёння – стадыёна). Можам дакрануцца да рэштак агароджы кармеліцкага сада. Паклонімся пагоркам, якія называюць Копцеўкай, на якіх побач спачываюць продкі вернікаў дзвюх цэркваў – сясцёр хрысціянскіх. Паклонімся мурам Ільінскай капліцы, якая спалучае памяць ветхазапаветнага прарока Ільі, пакравіцеля брацтва пустэльнікаў.

Падымімся, глыбачанін, на першы пагорак, і ад занядбаных муроў капліцы, у якой маліліся і каталікі і праваслаўныя, акінь вокам суседні пагорак з Калонай.

Тут адзіны архітэктурны ўздым. Два архітэктурныя помнікі выглядаюць, як адно цэльнае, задуманае і збудаванае ў адзін час. Кармеліцкая хроніка паведамляла, што статуя (фігура Церпячы Езус), якая сядзіць на калодзе ў цярновым вянку, дзіўна пацелася 10 жніўня 1763 года. У той час статуя Ісуса знаходзілася ў законным хоры, потым была перанесена ў Ільінскую капліцу, а з сярэдзіны XX ст. да нашых дзён захоўваецца ў касцёле Святой Тройцы. Дзіўна, але будаўніцтва мураванага касцёла пачалося перад 1764 годам, а закончылася толькі праз 18 год. Сёння краязнаўца Юры Калбасіч, які зрабіў паменшаную дакладную копію-макет Беразвецкай царквы, мяркуе, што касцёл Святой Тройцы ў 1782 годзе не быў завершаны па праекце, а быў закончаны толькі ў 1908 годзе (надбудаваны дзве ступені вежаў). А Беразвецкая царква з узнёслымі да неба вежамі была збудавана за сем гадкоў. У гэтым есць загадкавасць архітэктурнай спадчыны Корсака. Між тым, Отан Гедэман сведчыць: "У 1768 годзе, калі Барская канфедэрацыя імкнулася выратаваць Рэч Паспалітую ад развалу, падкрэслівалася, што рускі атрад у пагоні за канфедэратамі выступіў з Полацка і праз Псую, Празарокі, Глыбокае накіраваўся на Нясвіж." Тут, па глыбоцкай дарозе, зноў пракацілася кола вайны. Але нягледзячы на віхуры войн, зламаныя лёсы людзей, іх праекты – два Божыя Храмы з узнёслымі крыжамі – радуюць глыбачан і гасцей горада.

У Глыбоцкім архіве захоўваецца рукапіс Аляксандра Сабалеўскага, дзе на старонцы 107 запісана: "Видимо, глубокская колонна воздвигнута монахами-кармелитами на принадлежащей им земле». А цяпер падумаем, ці магчыма, каб свецкі помнік у гонар Канстытуцыі 1791 г. кармеліты пабудавалі на сваёй зямлі? Па-другое, калі калона ўзведзена ў памяць Канстытуцыі, то чаму яна ўзвышаецца не ля самай вялікай Полацкай дарогі, каб яе маглі бачыць як мага болей люду паспалітага? Чаму яна стаіць на дальнім пагорку, за капліцай? Версія, што Напалеон адпачываў на другім пагорку, цікавая. Але гэта месца для імператара павіннна было быць вельмі адметным, уражлівым. Значыць, дальні пагорак Копцеўкі быў мемарыльным яшчэ да пабудовы калоны. "… У 1903 годзе Генрых Вінча паведаміў дзве легенды адносна калоны: згодна адной версіі – яна з'яўляецца памяццю па касцялку, які калісьці стаяў на гэтым месцы; згодна другой – гэта месца, на каторым адбылася смяротная дуэль двух братоў з-за паненкі". А можа, легенда мае працяг: родныя, альбо стрыечныя, браты роду Корсакаў на пагорку сышліся на дуэлі з-за гарачай любові да прыгажуні? Каханая дзяўчына выраклася пераможцы. Заўважым, фундатар памёр бяздзетны. Чаму? Калі паглядзець на партрэт Корсака з шабляй, то бачым статнага вяара. Дуэль магла стаць душэўнай ранай на сэрцы нашага героя, які на схіле жыцця ахвяраваў свае багацці на будаўніцтва Божых храмаў. Да 200-годдзя Корсака браты-кармеліты ўзвысілі мемарыяльную калону на месцы былога касцёлка, а на суседнім пагорку, на камянях сямейнага склепа, была ўзведзена Ільінская капліца для ўшанавання прарока Ільі і памяці дзядзькі і бацькі фундатара Эльяша (Ільі) – Льва Корсакаў, ад якіх была атрымана багатая спадчына. Успомнім ключавыя словы О.Гедэмана: "Пачынаючы з 1582 года, паміж Эльяшам Корсакам і Міхаілам Сулістроўскім шмат гадоў ішоў судовы працэс… Прэтэнзіі Сулістроўскага суд адхіліў, і ў пачатку 17 стагоддзя Глыбокае з навакольнымі землямі зноў вяртаецца роду Корсакаў. Атрымлівае яго Іосіф Львовіч Корсак…". Эльяш, які меў святое імя, пакінуў Іосіфу Львовічу спадчыну – мястэчка Глыбокае (правабярэжную частку рэчкі Бярэзвіцы). Леў Корсак стаў спачыннікам маёнтка Беразвечча ў 1587 годзе. Заўважым, Аляксандр Івашчонак, бакалаўр гісторыі Ягелонскага ўніверсітэта, сведчыць: "Эльяш Пятровіч Корсак быў дзядзькам Іосіфа Львовіча – Леў і Эльяш былі братамі, мелі аднаго бацьку – Пятра Дзмітрыевіча Корсака, але розных матак". Аўтар артыкула ўдзячны спадару Івашчонку за важны дадатак да крыніцы: Ул. Свяжынскі "Радавод Корсакаў гербу Корсак"., "Спадчына", 2000, №2.

На маю думку, калона ў Лявонпалі (Мёрскі раён) у гонар Канстытуцыі 1791 года маладзейшая за глыбоцкую, якая, як і належыць малодшай, "… больш стройная, стылёвая, галоўным чынам, у верхняй, якая звужаецца, часткі…".

Настане час, і каля фантана паўстане велічны помнік Іосіфу Корсаку, а плошча стане Гарой Храмаў, плошчай сустрэч, прымірэння хрысціян розных канфесій і іудзеяў.



**Былая ўніяцкая царква Пятра й Паўла ў Беразвеччы. Фундацыя Іосіфа Корсака.**

**Шэдэўр архітэктуры еўрапейскага значэння. Відарысы храма і яго гісторыя ўвайшлі ў шматлікія фундаментальныя выданні, як, напрыклад, «Всемирная история архитектуры» і ў падручнікі па архітэктуры для вышэйшых навучальных установаў (ЗША).**

**Разбураная паводле ініцыятывы глыбоцкіх уладаў у пачатку 1950-ых гг.**



**Калона ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 3 траўня 1791 года.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Ільінская капліца на цвінтары Копцеўка.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ Кастусь Шыталь

# Канцэрт беларускамоўнага рок-гурта прыйшоўся даспадобы докшыцкай моладзі

**26 чэрвеня пад час святкавання Дня моладзі ў Докшыцах адбыўся канцэрт беларускамоўнага рок-гурта "Босае Сонца", які быў праведзены пры падтрымцы грамадзянскай кампаніі "Будзьма беларусамі". Гэта быў першы выступ беларускамоўнага рок-гурта ў Докшыцах за апошнія некалькі год. Для мясцовых аматараў беларускамоўнай музыкі, ды і проста рок-музыкі, - вялікая падзея.**






"Прывітанне, Докшыцы! Падыходзьце бліжэй!", – заклікаў лідар гурта Алесь Кот-Зайцаў. Некалькі дзясяткаў маладзёнаў аддзяліліся ад натоўпу і падышлі бліжэй да сцэны.

Гурт "Босае Сонца" выканаў з дзясятак сваіх кампазіцый. У перапынках паміж спевамі адбываліся конкурсы, падарункамі на якіх былі торбы з сімволікай кампаніі "Будзьма" і дыскі з беларускамоўнай музыкай. Мясцовыя маладзёны падтрымлівалі музыкаў гучнымі апладысментамі. Многія фільмавалі канцэрт на тэлефоны і фотаапараты. Было бачна, што докшыцкай моладзі, прынамсі, значнай яе частцы, выступ беларускамоўнага гурта спадабаўся.

Пасля сканчэння канцэрту мясцовыя маладзёны абступілі лідара гурта, каб сфатаграфавацца з музыкам і ўзяць у яго аўтограф. Карэспандэнт "Вольнага Глыбокага" затрымаў Алеся яшчэ на некалькі хвілінаў, каб распытаць пра ўражанні ад горада і мясцовай моладзі.

"Мы хвалюемся, калі граем у невялікіх гарадах, - распавёў Алесь, - бо наша музыка не масавая, яна не заўсёды можа трапляць у такія гарады. Аднак кантакт з докшыцкай публікай аказаўся вельмі цёплым, вельмі узнёслым. Тое, нашая музыка была даспадобы докшыцкай моладзі, было для мяне нечаканасцю і радасцю".

"Мне здаецца, важна, каб людзі маглі слухаць беларускамоўныя гурты. Беларускамоўная музыка можа быць файнай і прыгожай. Для нас жа беларуская мова – гэта абсалютна натуральны стан",- падкрэсліў Алесь Кот-Зайцаў.

# 70-я ўгодкі жудаснай трагедыі ў Мікалаеве



■ Яўген Самсонаў

**26 чэрвеня 1941 года ў весцы Мікалаева пад Улай службоўцы НКУС расстралялі калону вязняў глыбоцкай турмы "Беразвечча".**




**Ксёндз Мечыслаў Янчышын ля памятнай шыльды, якая прысвечаная ахвярам Дарогі Смерці, што знаходзіцца ў глыбоцкім касцёле св. Тройцы. Айцец Мечыслаў быў адным з першых, хто абудзіў грамадства да ўшанавання памяці ахвяраў той жудаснай трагедыі.**

Сярод расстраляных зняволеных беразвецкай турмы – 2-х тысяч чалавек – былі жыхары Глыбоччыны, Шаркоўшчыны, Мёршчыны, Браслаўшчыны, Пастаўшчыны, палонныя жаўнеры Войска Польскага, святары, моладзь, якая ўдзельнічала ў розных арганізацыях — палітычных, грамадскіх, рэлігійных. Большасць з іх былі толькі пад следствам.

Ушанаваць памяць 70-х угодкаў жудаснай трагедыі прыехалі дэмакратычныя актывісты з Віцебска, Мінска, Бешанковічаў, Оршы, Пастаў, Глыбокага.





# У Віцебску прайшлі абласныя спаборніцтвы санітарных дружын

**17 чэрвеня ў г. Віцебску прайшлі абласныя спаборніцтвы санітарных дружын. У іх прынялі ўдзел 11 каманд з розных раёнаў вобласці. Атрымаўшы перамогу ў спаборніцтвах сярод санітарных дружын прадпрыемстваў і арганізацый Глыбоцкага раёна, каманда санітарнай дружыны УП ЖКГ Глыбоцкага раёна таксама прыняла ўдзел у абласных спаборніцтвах.**

■ Яўген Самсонаў

Паводле Палажэння, спаборніцтвы праходзілі ў чатыры этапы:

**Першы этап** - праверка табельнага абсталявання санітарнай дружыны і ўмення карыстацца імі.

**Другі этап** - праца санітарнай дружыны ў ачагу камбінаванага паражэння.

**Трэці этап** - работа санітарнай лютвы ў ачагу хімічнага паражэння.

**Чацвёрты этап** - работа санітарнай дружыны ў ачагу інфекцыйнага захворвання.

Персанал санітарнай дружыны ў ачагу інфекцыйнага захворвання працаваў у табельных індывідуальных сродках абароны.

У выніку ўпартай і зацятай барацьбы першае месца заняла каманда « ААТ ВЗРД - Маналіт». Другое месца - ААТ «Нафтан». УП «Полацкі Водаканал» - трэцяе месца.

Не пасарамацілі гонар раёна глыбоцкія камунальнікі. Чацвёртае ганаровае месца – гэта выдатны вынік для рэгіянальнай каманды, а 2 месца ў чацвёртым, самым складаным этапе кажа само за сябе.

З чым іх і віншуем. Так трымаць!







# Паўстае пытанне, а ці патрэбныя нам такія арандатары?

■ А.В. Протас ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ахо-вы жывёльнага і расліннага свету.*

22 чэрвеня 2011 года ў Глыбоцкую міжрайінспекцыю паступіў сігнал пра тое, што на возеры Бяглец у г. Глыбокае ставяць сеткі, і людзі, якія купаюцца, могуць заблытацца і патануць. Работнікі інспекцыі неадкладна вырашылі праверыць дадзеную інфармацыю. Назіраючы на працягу 2-х гадзін за возерам, інспектары ўбачылі, як ад берага адплыла лодка і малады чалавек усталяваў сетку, нягледзячы на тое, што быў дзень.

Інспектары затрымалі парушальніка, жыхара г. Глыбокае грамадзяніна С. Малады чалавек не стаў адпірацца ад парушэння, а растлумачыў, што захацеў паесці юшкі, але юшка станецца ў выніку вельмі дарагой. Парушальніку пагражае штраф да 50 базавых велічынь.

23 чэрвеня 2011 года рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі на досвітку знаходзіцца на адным з арандаваных вадаёмаў раёна. Неабходна праверыць, як арандатары выконваюць умовы дамовы арэнды, вядуць лоўлю і ўлік вылаўленай рыбы. І вось 6 гадзін раніцы, інспектары назіраюць, як рыбалоўчая брыгада арандатара рыбалоўных угоддзяў выплыла на вадаём, здымае сеткі. Аднак, выплыўшы на бераг, рыбакі хутка загрузілі мяшкі з сеткамі ў машыну і паспрабавалі пакінуць вадаём. Чаму такая спешка, чаму ніхто не праводзіў выманне рыбы, яе ўзважванне? Адказ стаўся просты – рыбакі выкралі вылаўленую рыбу, не афармляючы неабходных дакументаў, забралі рыбу сабе, усяго 27 кг, да таго ж у аўтамашыне разам з маркіраванымі сеткамі інспектара выявілі 3 браканьерскія сеткі. Зараз двум членам рыбалоўчай брыгады прыйдзецца адказваць не толькі за крадзеж рыбы, але за браканьерскую лоўлю сеткамі.

Паўстае пытанне, а ці патрэбныя нам такія арандатары?

25 чэрвеня 2011 года ў міжрайінспекцыю паступіў сігнал пра тое, што паблізу в. Мягуны Пастаўскага раёна на полі выяўлены рэшткі дзіка. Падчас правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў работнікамі інспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Пастаўскага РАУС устаноўлены падазраваны ў незаконным паляванні – мясцовы жыхар, грамадзянін Г. Канфіскавана частка мяса дзіка (25 кг), паляўнічая стрэльба. Вядзецца следства.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70 кругласутачна, мабільныя тэлефоны: 890-55-28, 897-23-02, 249-45-49, 347-85-14.




Чэмпіянат Беларусі па футболе-2011

# УЗЯЛІ ПЕРАКАНАЎЧЫ РЭВАНШ

## ФК "Віцебск" – "ПМЦ-1" (Паставы) – 0:2

■ Кастусь Александровіч

У гэтым матчы прысутнічаў свой дадатковы падтэкст, бо, па сутнасці. вырашалася, якая з каманд з'яўляецца зараз мацнейшай у Віцебскай вобласці. У папярэднія гады ў паядынках паміж імі раней перавагу мелі часцей віцябляне, якім удалося і сёлета перамагчы пастаўчан у абласным фінале спаборніцтваў па прагpаме Алімпійскіх дзён моладзі Беларусі. Аднак каманда ПМЦ у першынстве Беларусі гуляе сёлета выдатна і лепш за віцяблян. Яна даказалі гэта ў абласных цэнтры на вельмі напружанай сустрэчы, якая завяршылася іх упэўненай перамогай.

На штучным газоне запаснога поля цэнтральнага спартыўнага комплекса спачатку было даволі некамфортна. Аднак перад пачаткам сустрэчы сонца схавалася за хмары, дыхаць і гуляць футбалістам стала прасцей. Удалося абысціся і без дажджу, які добра-такі зарадзіў ужо ў наступным матчы маладзейшых па ўзросце каманд (U-15). А ў першай сустрэчу супернікі без разведкі ўступілі ў барацьбу, бо добра ведаюць манеру гульні кожнага. Настройваць пастаўчан на гэты матч не прыйшлося, бо ўсе яны проста гарэлі жаданнем даказаць ганарлівым гараджанам, што правінцыя таксама ўмее гуляць у футбол. А пасля трох кантрольных сустрэч у расійскай сталіцы каманда ПМЦ яшчэ больш пераканалася, што яна на многае здольная.

Дарэчы, двух лепшых пастаўскіх ігракоў спартакаўцы з Масквы запрасілі да сябе на прагляд. З той паездкі пастаўчане прывезлі і набыты тактычны вопыт, як трэба шчыльней трымаць супернікаў на полі. У гульні ж з віцяблянамі, да здзіўлення мясцовых спецыялістаў, госці з Пастаў з першых жа хвілін выглядалі лепш на полі, выйгравалі больш шасць адзінаборстваў ды і гулялі хутчэй. А ў пас каманда цяпер дакладна дзейнічае, імкнецца гуляць на высокіх хуткасцях. Не ўсё атрымлівалася ўзорна, здараліся і памылкі, але ў цэлым тэрытарыяльная і гульнявая перавага ПМЦ дазволіла камандзе перамагчы і ў Віцебску.

Праўда, такі поспех дастаўся пастаўчанам цаной вялізных намаганняў, бо гульня была даволі жорсткай, пераважна на грані фолу. Яшчэ ў першым тайме пасля небяспечнага сутыкнення вымушаны быў пакінуць поле пасля пашкоджання звязак апорны паўабаронца ПМЦ Павел Малахаў. Пасля перапынку віцябляне выбілі палец асноўнаму варатару пастаўчан Ільі Несцераву. На шчасце, лаўка запасных у нашай каманды вялікая, на кожнай пазіцыі ёсць рэзервныя футбалісты. Па ходу сустрэчы пастаўчане стварылі значна болей галявых момантаў, чым віцябляне, і два з іх рэалізавалі.

Ужо на 10-й хвіліне яны арганізавалі вельмі небяспечную атаку і з выгаднай пазіцыі нападаючы Васіль Журэвіч ударыў крыху недакладна. Ён жа неўзабаве з другой спробы на 20-й хвіліне з блізкай адлегласці прабіў моцна ў верхні вугал – 0:1. У другім тайме, калі гульня стала вельмі нервовай, пастаўчане разыгралі імклівы прарыў у цэнтральнай зоне. Хуткасны нападаючы Дзмітрый Максімчук вывеў пасам насупраць варот паўабаронцу Ігара Пукава, і той забіў на 57-й хвіліне свой 9-ы гол у чэмпіянаце Беларусі. У канцоўцы матча пастаўчане ўпэўнена давялі няпростую сустрэчу да сваёй чарговай 9-й па ліку перамогі ў 11-ці праведзеных сустрэчах.

Гэты пераможны вынік у абласным цэнтры забяспечылі наступныя футбалісты: Несцераў (Місюс), Рымчонак (Канонік), Альсевіч, Жарскі (к), Архіпаў, Бабічаў, Пукаў(Сысянкоў), Малахаў (Санько, Давыдзенка), Максімчук (Галяк), Сідарэнка (Латышаў), Журневіч. Пасля кароткага трохдзённага адпачынку пастаўчане прадоўжылі трэніроўкі і напрыканцы чэрвеня выехалі на прадстаўнічы міжнародны турнір у Польшчу, паблізу горада Гданьска. Пакуль жа ў першынстве Беларусі ў іх активе было 29 ачкоў пры выдатнай розніцы забітых і прапушчаных мячоў 32-5, пастаўская каманда саступала толькі лідару – славутаму мінскаму "Дынама".

Паралелі

# КАМУ Ў ЛІТВЕ ЖЫЦЬ ДОБРА?

■ Алег Казловіч.

Пра быццам "загніваючы Захад" далдонілі савецкім людзям практычна яшчэ з маленства. У наш час чамусьці большасць айчынных СМІ гавораць толькі аб эканамічных цяжкасцях і праблемах у бліжэйшых суседзяў, хваляцы плюсы беларускай сацыяльна арыентаванай эканомікі. Аднак, да прыкладу, у суседняй з намі Літве не было, як у нас, сумнай майскай дэвальвацыі нацвалюты. Літ як каштаваў, так і каштуе, 2 літы і 18 цэнтаў за адзін $, у шматлікіх абменніках любую валюту свабодна набудзеш. Аб гэтым мне расказаў знаёмы, які мае шэнгенскую візу і рэгулярна, некалькі разоў на месяц, наведвае Вільнюс, усё часцей прывозіць адтуль розныя заказы землякам.

Ён жа падараваў мне каляровыя буклеты з абвесткамі аб штотыднёвых зніжках цэн на 30 і болей % у гандлёвай сетцы аднаго з літоўскіх гіпермаркетаў "Maxima". Займальная, трэба сказаць, атрымалася статыстыка, калі мясцовыя цэны трэба памножыць прыкладна на 2200 і атрымаеш іх эквівалент у беларускіх рублях. Ды і не бывае ў літоўцаў, як у нас, каб за 5 месяцаў гэтага года цэны ў Беларусі толькі на прадукты харчавання падаражэлі на 28,5 % у сярэднім, а садавіна і гародніна – нават на 95,2 %, цукар – на 68,2 %, чай – на 72,7 % і г. д. Таксама трэба сказаць, што ў суседзяў аднавілі дакрызісны ўзровень сярэднямесячнай зарплаты амаль $ 900, літоўскія пенсіянеры атрымоўваюць пенсію у межах 300 долараў.

Зрэшты, толькі сляпы не бачыць цяпер сур'ёзнага пагаршэння ў нашай краіне сацыяльна-эканамічнага ўзроўню жыцця і дабрабыту нацыі. Гэта не было б так сумна, калі б існавала нейкая перспектыва стабілізацыі абстаноўкі. Аднак на вышэйшым узроўні афіцыйна заяўляюць, што ні на крок не адступяць ад цяперашняй выбранай мадэлі развіцця, як ішлі сваім шляхам,так і будзем ім ісці далей. Па меркаванні нашых упраўленцаў, у дзяржавах Прыбалтыкі "эканомікі – нікакой і зямлю не пашут».

З апошнім тэзісам спрачацца не будзем, аднак заўважым, што там эканоміка рыначная, і яна даказвае сваю эфектыўнасць, мяркуючы па цэнніках на мноства тавараў і прадуктаў харчавання, супаставімых па цэнах з беларускімі, і ўсё часцей цяпер таннейшымі за нашы. Між тым, яшчэ перад новым годам зямляк прывёз сабе з Літвы за 1 млн. рублёў сучасны тэлевізар ЖКТ з вялікім экранам падчас калядных распрадаж (аналагічная мадэль у нашых крамах каштуе зараз ужо пад 5 млн. рублёў)…




Рэкламная ўлётка з гіпермаркета "Maxima", якая абвяшчае аб зніжках на прадукты харчавання. Паказаны стары (закрэслены) і новы кошт і адсотак, на які праведзена зніжка. Кошты ў літах.

# Падзяка

Вялікае гора прыйшло ў нашу сям'ю. Пайшоў з жыцця ў росквіце гадоў наш любімы сынок, пляменнік і брацік

**Лаўцэвіч Генадзь Альфонсавіч.**

Выказваем вялікую падзяку ўсім, хто не пакінуў нас адзін на адзін з такой бядой і аказалі маральную і матэрыяльную падтрымку: ААТ "Канстанцінаў Двор", цэху САМ ААТ "Малочнаказсервавы камбінат", Гурскаму В. Б., пеўчай Хоміч С. В., айцу Сергію, а таксама ўсім жыхарам вёскі Зарубіна, хто падзяліў з намі боль гэтай страты. Нізкі Вам паклон!

*Ад сям'і Лаўцэвіч*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"



4 – 10 ліпеня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 4 ліпеня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **15.00, 19.00** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** Документальный сериал «Горожане»: Прага.
**09.10 "Маргоша"**
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Я почувствовала себя старой».
**11.05 "Маруся. Возвращение"**
**12.10** Народная комедия **«Любовь и голуби»** (СССР).
**13.55** «Георгий Жуков. Война и мир Маршала Победы».
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Здоровье».
**16.05** Требуется.
**16.20** «Анатолий Папанов».
**17.05 "Маршрут милосердия"**
**17.55 "Маруся. Возвращение"**
**18.50, 01.30** «Зона Х».
**19.30** Видеофильм.
**19.55 "Маргоша"**
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка».
**21.55** Кинороман **«Вся королевская рать»** (СССР, 1971).
**00.35** День спорта.



**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 "Любительница частного сыска Даша Васильева"**
**11.55** «Детективы».
**12.30** «Живая природа: прямой репортаж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 "Обручальное кольцо"**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 "Счастливы вместе"**
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05 "Серафима Прекрасная"**
**22.10** Премьера. Нелли Уварова в фильме **"Атлантида"**. Россия, 2007.
**23.05** «Мозг. Перезагрузка».
**00.05 "Крем"**
**00.55-01.25** Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.00 "Журов"**
**10.00** Альбарутения.
**10.30** «Лабірынты. Гісторыя беларускага фотамастацтва». Частка 1-я.
**10.55** Женсовет.
**11.25** «Дети нового поколения». Седьмые классы. Первый полуфинал.
**12.25 "Последнее лето детства"**. 2-я серия.
**13.35 "Иван и Митрофан"**. 1-я серия.
**13.50** Пра мастацтва.
**14.15** «Навіны надвор'я».
**14.45** Реальный мир.
**15.15** «Час суда. Дела семейные».
**16.15** Врачебные тайны с доктором А.Терещенко.
**16.45** Врачебные тайны +.
**17.00** Битва экстрасенсов.
**17.55** "Ты моя жизнь"
**19.00 "Журов"**
**20.00** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25 "В петле"**
**23.15** Битва экстрасенсов.
**00.05** Реальный мир.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.55** «Большой завтрак».
**10.30** «24 часа».
**10.40 "Наши соседи"**. Сериал.
**11.45** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** Большой ЖИВОЙ концерт «Победители» «Звездного ринга» в Витебске.
**15.40** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Апокалипсис придет из Космоса».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25** «Кинопонедельник»: **«ТИХАЯ СЕМЕЙНАЯ ЖИЗНЬ»**. Россия, 2008.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**7:35 "Час гонару"**: 36 серыя
**8:25** Чаму дэмакратыя? 5 серыя: «Абед з прэзідэнтам»
**9:15** Прыватная калекцыя
**9:40** На колах
**10:10** Без рэтушы: «Права на смерць», рэпартаж, рэж. Кацярына Севасцянава, 2009 г., Беларусь
**10:30** «89 міліметраў», дак. фільм, рэж. Зэбаст'ян Гайнцэль , 2004 г., Нямеччына–Беларусь
**11:50** Вагон
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Фільматэка майстроў: **"Завадатар"**
**13:50 "Час гонару"**: 36 серыя
**14:35** Чаму дэмакратыя? 5 серыя: «Абед з прэзідэнтам»
**15:25** На колах
**15:55** Без рэтушы: «Права на смерць», рэпартаж, рэж. Кацярына Севасцянава, 2009 г., Беларусь
**16:20** Моўнік
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Ранча Піковая Сямёрка"**: 17 серыя
**17:30 "Час гонару"**: 36 серыя
**18:15** Чаму дэмакратыя? 5 серыя: «Абед з прэзідэнтам»
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:45** Беларусы ў Польшчы
**20:00** Еўропа сёння
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Героі не нашага часу: Рамуальд Жолтак: у цісках часу
**21:40** Фільматэка майстроў: **"Завадатар"**
**23:25** Аб'ектыў

ПАНЯДЗЕЛАК, 4 ліпеня

